№ 3 [18] САКАВІК 1949 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 40 фр.

Адрэс рэдакцыі:
Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 628744.

Падпісная цана на год 350 фр.




# Яшчэ адзін год

Час прымусовае эміграцыі з кожным днём становіцца ўсё больш зацяжным. Мы, адзьдзеленыя ад бацькаўшчыны зялезнаю заслонаю, ідзём у штораз больш няпэўнае заўтра і часта пытаем сябе: куды нас вядзе наш жыцьцёвы шлях? Ці не аддаляе ён нас, разам з пражытымі днямі і гадамі, ад ажыцьцяўленьня сьветлага акту 25-га сакавіка — вольнае і незалежнае Беларусі? На гэтае боязкае пытаньне само жыцьцё дыктуе радасны адказ, што шлях наш беспамыльна вядзе да лепшага заўтра, да зьдзейсьненьня ідэалу вольнае і незалежнае Беларусі. Праўда, сучаснае палажэньне беларускага народу здаецца быць далёкім ад гэтага ідэалу. Ня сьвет, а ноч наступае на нас. Але чым цямнейшая ноч, тым ясьней на небе зьзяюць зоры і тым ясьней іх кожны бачыць. Падобна і няпэўнасьць заўтрашняга дня выдаецца цямней цёмнае ночы, але на кругазоры гэтае ночы зарысоўваецца штораз ясьней зарніца ідэалу 25-га сакавіка, і штораз больш гуртуюцца людзі на шляху да гэтае зарніцы.

Наша прымусовае расьсеяньне, не зважаючы на цярпеньні і нявыгоды, якія яно спалучае з сабю, на радасьць нам усім нясе вестку аб Беларусі ўва ўсе краіны сьвету. Адна за другою паўстаюць беларускія нацыянальныя арганізацыі ў Нямеччыне, Францыі, Англіі, Даніі, Швэцыі, Італіі, З. Ш. А., Канады, Аргентыны, Аўстраліі. Беларускае пытаньне ставіцца на парадку дня ў міжнародным абсягу. Беларускія нацыянальныя прэдстаўніцтвы ўвайходзяць у склад штораз большага ліку міжнародных арганізацыяў. Нават сучасны акупант Беларусі змушаны больш паважна рахавацца з узрастаючым беларускім рухам. Воля да барацьбы з варожымі сіламі не слабее, але мацнее. — І ўсё гэта дзеецца наперакор жаданьням і стараньням пераважаючых сілаў ды інтрыгаў ворага. Ці-ж гэта ўсё ня ёсьць найяскравейшым доказам таго, што па-над дзяржаўнымі і міжнароднымі плянамі палітыкаў ёсьць яшчэ ў сьвеце нешта вышэйшае, ёсьць плян духовы, які валодае сьветам? І ў гэтым вышэйшым пляне, відаць, Беларусь гэтым разам стаіць нароўні з іншымі краінамі.

У гэткім палажэньні няма чаго паддавацца сумным настроям, але можна разам з апосталам Паўлом паўтараць (Рам. 8, 31) «Калі Бог за нас хто супраць нас?» Гэта тымбольш апраўдана, што з Божага пляну кіраваньня сьветам ведама, калі Бог раз нешта паклікаў да жыцьця, не забудзецца аб ім ніколі. Вуснамі прарока Ісаіі Ён так адзываецца: «Ці-ж можа маці забыцца аб сваім дзіцяці, каб ня зьлітавацца над сынам, якога насіла ў саім лоне? Але калі-б і яна забылася, Я аднак не забудуся аб табе» (Іс. 49, 15). І аб нас Бог відаць не забываецца, каб толькі мы аб Ім не забываліся.

У нашым палажэньні найгоршым ворагм для агульнае беларускае справы можам быць мы самі, калі зьняверваемся, або калі расьцярушваем свае сілы. Бо абдароўваў Бог наш народ і абдароўвае цяпер ня менш, чым іншыя народы. На працягу гісторыі можна бачыць, колькі зьявілося талентаў, што маглі быць аздобаю і апораю беларускага народу, а колькі загінула?!

Невялікая карысьць цяпер шкадаваць над гэтымі стратамі, але вельмі будзе карысна зрабіць з гэтага адпаведныя выснаўкі — усе свае сілы змабілізаваць для супольнага дабра і тады бяз сумніву станем нароўні з іншымі народамі. Хто і цяпер будзе меркаваць, каб астацца збоку, або тымгорш аддаць свае сілы на паслугі ворагу — ані перад сваім сумленьнем, ані перад народам, ані тымбольш перад Богам ня знойдзе сабе апраўданьня.

Чалавеку Бог дае розум і сілу на тое, акб карыстаў з іх ня толькі для асабістага дабра, але і для агульнага. А ў цяжкіх хвілінах вымагае не пашкадаваць зрабіць з іх найбольшае ахвяры: «Лепш нам памерці ў змаганьні, чымся бачыць мукі нашага народу і руіны сьвятасьцяў» (I. Мак. 3, 59), заклікалі браты Макавеі ў цяжкіх хвілінах. I мы павінны добра ўсьведаміць гэтыя сьвятыя словы.

На эміграцыі больш чым самае змаганьне мучыць людзей няпэўнае чаканьне. Кожны мінулы дзень у шмат каго халодзіць жар любові да роднага, а нават аслабляе вязі, якія лучаць з бацькаўшчынаю. Таму запраўды найбольш годна азначым 31-ыя ўгодкі сакавіковага акту, калі ўзмоцнім нашы духовыя сілы і адсьвежым у памяці нашы абавязкі адносна Бога і Бацькаўшчыны.

# Тайны веры і розум

У хрысьціянскай рэлігіі ёсьць некаторыя праўды веры, якія маюць агульны назоў — Тайны веры і належаць да так званых догмаў. Гэта такія праўды, аб існаваньні якіх людзі даведаліся з аб'яўленьня, але якіх нельга ўцяміць людзкім розумам. Ад людзей вымагаецца верыць у іх дзеля павагі і праўдамоўнасьці Бога, Які іх аб'явіў. Ня шмат ёсьць такіх Тайнаў, але яны зьяўляюцца асноваю нашае рэлігіі. Галоўнейшыя з іх ёсьць: Сьв. Тройца, першародны грэх, уцелаўленьне Хрыста, адкупленьне людзкога роду Хрыстом, асьвячаючая ласка, сьв. Эўхарыстыя, загробнае жыцьцё — нагарода або кара за дачасныя ўчынкі, уваскрасеньне. Пералічаць на гэтым мейсцы ўсе Тайны веры няма патрэбы.

Аб існаваньні гэтых Тайнаў перад аб'яўленьням людзі не маглі нават і дагадвацца, але і пасьля аб'яўленьня яны астаюцца недаступнымі разумовым здольнасьцям чалавека, нават міма найшчырэйшага іх успрыняцьця. Таму супраць Тайнаў веры з розных бакоў так даўней, як і цяпер уздымаюцца розныя засьцярогі, якія ў асноўным можна зьвесьці да двох пытаньняў: ці агулам Тайны веры праўдзівыя? і нашто яны нам патрэбныя?

Каб адказаць на гэтыя пытаньні, трэба сабе ўсьведаміць, што рэлігія палягае ў адносінах чалавека да Бога. Значыць рэлігія адным сваім канцом дакранаецца да вечнае і бесканечнае істоты — Бога, а другім яна абымае дробную, дачасную й абмежаваную істоту — чалавека. У гэткіх адносінах гаварыць аб розьніцы замала, бо такая розьніца мяжуецца з бесканечнасьцю. Аднак дзеля таго, каб агулам былі нейкія адносіны, неабходна каб было ўзаемнае пазнаньне. Ясна, што Бог, як створца сусьвету дасканала ведае свой твор — чалавека, але неабходна, каб Боскасьць, хоць у дробнай ступені, сталася даступнай людзкому пазнаньню. Дзеля гэтага ўсё, што неабходна людзям ведаць аб Богу, аб мэце людзкога жыцьця, аб яе асягненьні — сам Бог аб'явіў людзям. Калі людзкі зор бачыць толькі невялічкую паверхню зямнога глёбу, дык магчыма што ў шмат меншай ступені людзкі розум бачыць Боскасьць у Божым аб'яўленьні, аднак каб зразумець Бога нават у тым абсягу, у якім Ён сябе аб'явіў, трэба мець Божы розум, значыць трэба быць самым Богам. Таму нічога дзіўнага, што для чалавека некаторыя аб'яўленыя праўды і далей астаюцца Тайнамі. Яны папросту перавышаюць наш розум падобна як розум вучня пачатковае школы перавышаюць праўды вышэйшае матэматыкі, але беспараўнаньня ў большай ступені. Калі сьцьвярджаем гэта, дык не адмаўляемся ад свайго розуму; наадварот, калі прынамся гэтую праўду ўцямім як сьлед, дык ужо розум выканае вялікую працу, як гэта трапна кажа вялікі вучоны Паскаль: «Апошнім стараньнем розуму ёсьць прызнаньне, што існуе бесканечная колькасьць рэчаў, якія перавышаюць розум, і ён быў-бы вельмі слабы, як-бы нават гэтага не пазнаў» (Думкі, Нр. 267).

I запраўды, варта толькі ўважней прыглянуцца навокал сябе, каб пераканацца, што навокал нас у прыродзе ёсьць нязьлічаная колькасьць рэчаў пазнаных, але незразумелых, непазнаных і непазнавальных. Нават параўнаўча ёсьць мала рэчаў, якія мы пазнаём добра; больш ёсьць такіх, якіх пазнаём толькі з большага; яшчэ больш ёсьць такіх, якіх мы можам пазнаць, але не пазнаём проста таму, што няма на гэта часу, або магчымасьці. Для прыкладу можна ўзяць такі факт: Вучоныя падрахавалі, што цяпер на сьвеце ёсьць каля двох мільёнаў розных відаў расьлін, але няма ніводнага чалавека, які-б іх усіх ведаў проста дзеля таго, што яны ня ўмесьцяцца ў людзкой памяці. А каб і ў памяці ўмясьціліся, дык жыцьцё закароткае, каб іх пазнаць. Блізу тое самае паўтараецца ў кожнай галіне людзкое веды: Нават анатомію нашага цела больш менш дакладна ведаюць толькі спэцыялісты прафэсары ды хірургі, а што бліжэй чалавеку, як сваё цела?

А нават у тым параўнаўча невялікім ліку пазнаных рэчаў і зьявішчаў, колькі ёсьць такіх, якіх мы не разумеем?! Да сёньняшняга дня яшчэ няма азначэньня сутнасьці такіх простых і паўсюдных рэчаў, як: час, прастор, гравітацыя, этэр, электрычнасьць, сьвет і ін. А гэта-ж усё так блізкае нам, такое штодзеннае! Але адначасна з гэтым абсяг пазнаньня прыроды з кожным днём павялічваецца; штодня выкрываюць вучоныя новыя й новыя зьявішчы ў прыродзе, адкрываюць новыя прасторы для працы людзкога розуму, але адначасна адкрываюцца новыязагадкі і новыя тайны ў прыродзе, адкрываецца бесканечны розум Тварца прыроды і бесканечнае Яго багацьцё.

Калі так маецца справа з прыроднымі рэчамі і зьявішчамі, дык ці-ж трэба дзівіцца, што ў надпрыродным парадку, якім займаецца рэлігія, мы тымбольш напатыкаем рэчы, якія пераходзяць нашы разумовыя магчымасьці! Там-жа мы спатыкаемся з бесканечнасьцю, з самым Богам, якога ўвесь сьвет абняць ня можа. Францускі філязоф Дэкарт гэта выказваў вельмі вобразна: «Я магу дакрануцца да гары, але мне немагчыма абняць яе». Падобна мы ў рэлігіі дакранаемся розумам і інтуіцыяю да Бога, але ня можам Яго ўцяміць. У надпрыродным парадку ў большай ступені і выразьней выступае абмежаваньне людзкое натуры, да якога мы прывыкаем тут на зямлі. Мы мала клапоцімся аб тым, што наш слух ня ўспрыймае вельмі высокіх і вельмі нізкіх гукаў. Мы ведаем, што наша вока ня можа адкрыта глядзець на дробную іскру Божага твору — на сонца і калі нехта хоча дасьледаваць яго, дык аглядае праз задымленае, або прыцемненае шкло. Падобна і для пазнаньня Самога Бога людзі часта ўжываюць розныя параўнаньні і прыклады, быццам тыя прыцемненыя шклы, але гэткім спосабам мы ўсё-ж ўзбагачваем свае веды. У тым запраўды веліч мудрасьці Бога, што не зважаючы на маленькасьць і абмежаванасьць людзкога розуму, змог яму аб'явіць сваю веліч і адкрыў бесканечныя магчымасьці перад тым розумам, ад якога адначасна вымагае ўпакораньня і прызнаньня абмежаванасьці.

Адгэтуль ясна, як беспадстаўныя напады недаверкаў на Хрысьціянскія Тайны веры. Крыніцаю гэтых нападаў заўсёды была і ёсьць людзкая самапэўнасьць, не зважаючы на тое, што на працягу вякоў мылялася нязьлічаную колькасьць разоў, яна заўсёды перад абліччам Бога хоча паказаць сябе мудрэйшай, як ёсьць у запраўднасьці. У Дзеяньнях Апосталаў (раз. 17.) апавядаецца аб тым, як апостал Паўло прапаведваў у Атэнах навуку Хрыста тагачасным філязофам. Тыя адразу азваліся з гордасьцю: «Што хоча сказаць баўбатун гэты?» Калі-ж апостал пачаў ім гаварыць аб уваскрасеньні, дык філязофы пачалі з яго насьміхацца, і адправілі з кпінамі, кажучы: «Паслухаем цябе аб гэтым другім разам». Але ўявем сабе, каб гэтым-жа заразумелым філязофам нехта пачаў гаварыць, аб самаходах, самалётах, радыё, касмічных праменьнях і пад., напэўна кпілі-б з яго яшчэ горш, бо для іх сучасныя асягненьні навукі былі-б больш неімавернымі, чым Тайны хрысьціянскае веры, аб якіх гаварыў ап. Паўло. Яны напэўна не паверылі-б ані ў электрычныя хвалі, ані ў энэргэтычныя законы, на аснове якіх сучасная навука памнажае свае асягненьні.А гэтыя-ж законы існавалі ад стварэньня сьвету, міма таго, што людзі доўгія вякі аб іх існаваньні нават і не дагадваліся. А хто можа сказаць, колькі ў прыродзе ёсьць яшчэ такога, аб чым нам і ня сьніцца? Бог не сьпяшаецца з дапамогаю адкрываць людзям усё тое, без чаго магчыма жыць і асягнуць апошнюю мэту жыцьця.

Можа нехта наракаць, што Бог замала аб'явіў людзям. Але з таго, як цяжка ўспрыймаць і тое, што аб'яўлена, можна дагадвацца, якія былі-б цяжкасьці, каб было аб'яўлена яшчэ больш.

Што да карыснасьці аб'яўленых Тайнаў веры зьвернем увагу толькі на галаўнейшыя з іх.

Найважнейшай карысьцю аб'яўленых Тайнаў ёсьць тое, што яны навучаюць чалавека аб апошняй мэце ягонага жыцьця і аб спосабах, як яе асягнуць.

Тайны веры выяўляюць запраўдную вартасьць чалавека ў адносінах да Бога, да сусьвету і да самога сябе. Яны зьмяншаюць людзкую гордасьць, упакорваюць чалавека выяўляючы ягоную абмежаванасьць, але адначасна напаўняюць надзеяю на асягненьне вечнае Праўды і вечнага шчасьця.

Прыймаючы Тайны веры, не зважаючы на тое, што іх ня можам уцяміць, тым самым робім вельмі заслугоўваючы ўчынак перад Богам. Верыць у тое, што зусім ясна, не зьяўляецца ніякаю заслугаю, ані няма свабоды выбару; а верыць у Тайны спасылаючыся на аўтарытэт Бога, гэта ёсьць не малою заслугаю.

Тайны хрысьціянскае веры найлепш, найпрасьцей і непамыльна высьняюць тыя цяжкасьці, часта спатыканыя ў жыцьці, што да якіх навука не сказала нічога талковага. Выдатны італьянскі фізык Марконі (1874-1938) так гаварыў аб гэтым: «Навука ня ў стане высьніць шмат рэчаў, а перадусім тайніцы нашага існаваньня, чым ёсьць чалавек? Які яго пачатак? Хоць ад шмат вякоў чалавек над гэтым задумоўваецца, ня можа знайсьці на іх адказу. Што да мяне, дык сьцьвярджаю з гонарам. што я ёсьць веруючы каталік. Веру ў сілу малітвы. Веру ў гэта ня толькі як вернік, але так-жа як вучоны». Запраўдная навука, бачучы, колькі яна на працягу стагодзьдзяў мылялася, заўсёды з пакорю схіляе галаву перад непамыльным аўтарытэтам Бога.

Тайны хрысьціянскае веры зьяўляюцца наймацнейшаю асноваю маральнасьці. У хрысьціян-

скіх догмах веры ёсьць натхненьне да найбольшых гэраічных цнотаў — веры, надзеі, любові. У іх ёсьць крыніца сьвятасьці, якая нават з апошняга злачынца дае сілы зрабіць вялікага сьвятога. Людзі адвеку шукалі жыватворчае вады, якая патрапіла-б ажывіць труп чалавека — Тайны хрысьціянскае веры гэтую моц маюць, калі не ў адносінах да цела, дык у адносінах да душы.

Бяз Тайнаў агулам рэлігія немагчымая. Хто адкідае Тайны, тым самым адкідае ўсю рэлігію. Аднак чалавек ня можа адкінуць свае натуры, якая мае Богам даны урожданы гон да таёмнага. Нам не астаецца нічога іншага, як выкарыстаць гэты дар Божы для свайго збаўленьня і пакорна ўспрыняць усё тое што Бог з сваіх бесканечных тайніцаў нам адкрывае.

**а. Леў**

# Поступ і загадка жыцьця

Чалавек любіць хваліцца — такая ўжо яго ўдача. Можна дагадвацца, што ад самага пачатку існаваньня людзкога роду, заўсёды людзі хваліліся сваім поступам — прагрэсам. Хоць гэткая хвальба выразна не запісна ў кнігах, аднак пэўна што перш чым пачалі пісаць прымітыўныя вучоныя, ужо хваліліся, што яны не стаяць на мейсцы, але паступаюць, і гэта неаспрэчная праўда.

З поступам, хаця й невялікім, расьце гордасьць; чалавек надзімаецца і думае, што ён ужо сказаў апошняе слова ў навуцы. Найчасьцей такія паступоўцы чапляюцца за рэлігію, крытыкуюць яе, і часта запярэчваюць.

Шукаў я ў нашых сёньняшніх паступоўцаў адказу на пытаньне, якое заўсёды цікавіла людзей: адкуль узялося жыцьцё на зямлі? Яны нават і не ўспамінаюць аб кнізе сьв. Пісаньня — Быцьцё, дзе якраз выясьняецца пачатак жыцьця, бо ў бязбожных паступоўцаў няма мейсца для Бога. Паступоўцы звычайна ня прымаюць выясьненьня пачатку жыцьця, якое падае Царква, аснованага на сьв. Пісьме, але шукаюць усякія іншыя разьвязкі гэтага пытаньня. Якраз мне трапіўся ў рукі артыкул нейкага акадэміка з Адэсся, напісаны для шырокага грамадзянства аб паходжаньні жыцьця. З асаблівою цікавасьцю шукаў я там таго мейсца, дзе выясьняецца пачатак жыцьця на зямлі, але знайшоў усяго такі сказ: «а калі на зямлі паўсталі дагодныя абставіны, паўстала жыцьцё». Вось і ўсё. Гэтае цьверджаньне было тымбольш загадкавае, што ў папярэдніх выясьненьнях аўтар паслугоўваўся тэорыяю Канта і Ляпляса, на аснове якое на пачатку ўся зямная куля была вогненнаю масаю. Тым самым на ёй ніякага жыцьця не магло быць. Для паясьненьня, як потым на гэтай кулі паўстала жыцьцё, было выдумана шмат дагадак-тэорыяў. Адна з іх называецца тэорыя спантанічнае гэнэрацыі, гэта значыць аб раптоўным пераскоку ад мёртвых атамаў да жывых каморачак і да стварэньняў. Якраз на гэтую тэорыю намякае ўспомнены акадэмік, хоць і не называе яе па імені. Сам акадэмік з найбольш паступовае краіны (прынамся яму так здаецца) і свой артыкул выдрукаваў быў у «Бязбожніку» за 1941 г. ды хацеў, каб ягонае цьверджаньне усе прынялі, як адзінае праўдзівае што да гэтага пытаньня. Але гэтая тэорыя неправўдзівая і астаецца толькі прыгожаю тэорыяю, але бяз ніякіх доказаў.

Да таго-ж гэтая тэорыя не зьяўляецца чымсьці новым. У старым сярэднявеччу верылі, што жыцьцё паўстае з мёртвае матэрыі, аднак з тою засьцярогаю, што гэта можа стацца пад уплывам сонца, або духаў. Значыць тагачасныя вучоныя бачылі неабходнасьць прызнаньня панад матэрыяю вышэйшага дзейніка. Аднак гэная тэорыя страціла прыхільнікаў, калі счасам выявілася, што нават у той матэрыі, якую раней уважалі за мёртвую знайходзіцца безьліч маленькіх жывучак, якія можна бачыць толькі праз мікраскоп. Глыбейшыя досьледы ў гэтым кірунку давялі да цьверджаньня, што кожны жывы арганізм можа зарадзіцца толькі з жывога, яму падобнага, кожная жывая каморачка — з такое-ж жывое каморачкі.

Паступоўцы ўсялякімі спосабамі стараліся вытварыць у хэмічных лябораторыях хоць якую колечы арганічную матэрыю з неарганічнае. Пасьля доўгіх досьледаў удалося вытварыць некаторыя суравіцы, штучнае малако, а нават патрапілі выпрадукаваць штучнае яечка, зусім падобнеае да таго, што нясуць куры, але тое штучнае малако ня кісьне, ані з штучнага яечка ня выседжваецца кураня. Значыць, што ў гэтых вытварах, хоць вонкава яны падобныя да арганічных, нечага не стае — у іх няма жыцьця, таму яны й далей астаюцца няжывымі. Дык што гаварыць пасьля гэтага аб вышэйшай ступені жыцьця, якое ёсьць у чалавеку, аб ягонай душы?

Найбольш паступовыя вучоныя зьяўляюцца хутчэй назіральнікамі жыцьцёвых зьявішчаў, але яго не схапілі нават у найпрасьцейшым ягоным выглядзе. Чалавек мае чудовы, глыбокапранікаючы розум, мае векавы досьлед, вытварыў безьліч розных інструмэнтаў і прыладаў — аднак міма ўсяго гэтага ён ня можа нічога зрабіць нават аднясна найменшае жывое каморачкі. Дык што-ж астаецца нам пасьля гэтага, як ня прызнаць хрысьціянскае навукі, якая кажа, што існуе валадар жыцьця — Бог і ад яго паходзіць жыцьцё на зямлі. Мёртвая матэрыя ня можа даць жыцьця з тае простае прычыны, што яго сама ня мае.

Сотні гадоў таму ўзад можна было цьвярдзіць, што навука яшчэ выкрые нешта надзвы-

чайнае адносна паўстаньня жыцьця на зямлі. Сёньня-ж мы бачым, што хоць навука і не сказала яшчэ ў гэтай справе свайго апошняга слова, хоць сёньняшні поступ далёка незавершаны, але нельга сябе пацяшаць магчымымі новымі адкрыцьцямі, прымаць дзеля гэтых фантастычных магчымасьцяў ложныя тэорыі і зводзіць дзеля іх аграмадныя масы моладзі, заўсёды прагнае навінкаў, на бязбожніцкіх шлях фальшывы ў корані і жахлівы ў насьледках.

Пасьля такога вялікага поступу, якога мы зьяўляемся сьведкамі,. нельга чакаць якіхсьці асаблівых адкрыцьцяў у справе паўстаньня жыцьця на зямлі, а ўжо штонайменш вельмі недарэчна верыць у гэтае няіснуючае адкрыцьцё як у нейкі выясьняючы доказ.

Вялікі вучоны разам з простым, няпісьменным вернікам, ведзеныя сучаснымі навуковымі здабыткамі і хрысьціянскаю вераю, калі ўспрыймаюць адно і другое шчырым сэрцам, лучацца ў адной сьвятыні, каб супольна славіць Створцу неба і зямлі, усяго бачнага і нябачнага, бо ў Ім знайходзяць разьвязку ўсіх пытаньняў туземнага і будучага жыцьця. **П.**

---

# ТЫ І ЯНА

**Мэты Божага Праўду.**

(Працяг).

Плоцьныя розьніцы, так характэрныя для чалавека, выяўляюцца ўжо ў дзіцячых годах і ня гледзячы на аднолькавыя абставіны ў якіх гадуюцца брат і сястра, яны розна разьвіваюцца датуль, пакуль зусім не расьцьвітуць адзін у дасьпелага юнака, а другая ў дарослую дзяўчыну.

Хлапец змалку тод рвецца да дзейнасьці. На ўсім ён пробуе сваіх сілаў і здольнасьцяў. Усьцяж да чагосьці імкнецца, нешта пляну е і разважае, каб штосьці асягнуць. Яго цягне ў шырокі сьвет — там бо пакажа сваю сьмеласьць, спаткаецца з супраціўнасьцямі, выпрабуе ў труднасьцях сваю сілу. Таму й натура падросткаў такая каструбатая. А ўсё-ж такі пры сваёй дзікасьці і шурпатасьці хлапец найбольш чульліва прывязваецца да свае маці, ёсьць рыцарам у адносінах да сястры, ахвотна кіруецца іхнімі радамі і заўвагамі.

Дзяўчынка — яна найшчасьлівей чуецца, калі мае змогу згуляць ролю маткі і гаспадыні. Яе зацікаўленьні пры дамашніх занятках, а ў гульні з лялькай выяўляюцца ўсе тыя прыметы, каторыя некалі будуць упрыгожваць дбайлівую маці. Яна туліцца ахвотна да таты; на яго яна глядзіць з пашанай і зьдзіўленьнем ды сіліцца, каб якім колечы спосабам зрабіць яму прыемнасьць.

Мудры правід Тварца даў чалавеку моцны пацяг, што цягне ў кірунку рознай ад яго плоці. Гэта называецца плоцьным гонам, хоць звычайна гэты назоў разумеем вельмі вузка. Мыліўся-б той, хто думаў, што плоцьны гон у розных людзей ёсьць нечым адным нескладовым і розным толькі сілаю напяцьця і праяваў. Ужо адно тое, што ўспомнены гон ахоплівае і цела і дух, паказвае на ягоны рознаякі склад.

Паводля сучасных псыхалёгаў на плоцьны гон складаюцца тры элемэнты. (Прымаем гэтую схэму, не ўвайходзячы ў яе доказы).

Гэтыя тры элемэнты, каторыя ў вельмі нароўнай прапорцыі праяўляюцца ў розных адзінак ёсьць: 1) пачуцьцёвыя гоны, якія маюць сваю сядзібу ў целе і выклікаюць жаданьні шукаць задаваленьня змыслаў. 2) Чуцьцёвыя гоны — гэта жаданьне кахаць і быць каханым. 3) Сямейныя гоны, або жаданьне мець уласных дзяцей.

Быццам дзеля таго заданьня, якое мужчына мае выпаўніць у сужэнстве, яго пачуцьцёвыя гоны моцна разьвітыя, тады, калі ў нармальнай і нявіннай дзяўчыны яны ледзь ня сьпяць. Найчасьцей бывае, што яна нават і не дагадваецца аб тым, як яна палка раздражняе маладога мужчыну і не дагадваецца гвалтоўнасьці пачуцьцяў, якія ў яго пабуджае. Пэўна-ж і ў дзяўчаці могуць разбудзіцца пачуцьцёвыя гоны і тады яны становяцца гвалтоўнымі. Аднак паводля сьведчаньня выдатных вучоных у гэтай галіне, у дзяўчат падобнае зьявішча выклікаецца вонкавымі ўплывамі, як: чытаньнем раманаў, размовамі, кінотэатрам, зводнымі намовамі і пад., калі толькі ў самай натуры няма чагосьці ненармальнага.

Чуцьцёвы гон праяўляецца у жанчын куды мацней. чым у мужчын. У звычайным ходзе рэчаў дзяўчына, адчуваючы слабасьць свае жаночае асобы, мае тугу за сільным, поўным ініцыятывы і духова вышэй стаячым мужчынай, каб на ім магчы аперціся, каб глядзець на яго з поўным даверам і падзівам,каб бясьпечна аддаць сябе ягонай апецы. Ёй перадусім залежыць на тым, каб знайсьці ў мужчыне любоў і прызнаньне за роўную сабе сяброўку жыцьця.

Але і ў мужчыны ёсьць чуцьцёвыя гоны, каторыя тым мацней праяўляюцца, чым лепш юнак змог апанаваць свае змыслова-пачуцьцёвыя гоны. Божае слова: «Нядобра чалавеку аставацца самому, зробім яму сяброўку падобную да яго», — да сёньняшняга дня ня страцілі на цане. Нармальны, добра разьвіты малады мужчына, у меру свайго развою адчувае больш і выразьней быццам нейкую паражнечу ў сваім жыцьці. Ён тужыць за сяброўкай, которая-б сваім далікатным абыходжаньнем, сонечна-пагоднай усьмешкай і дабрадзейнай радасьцю ўпрыгожвала-б жыцьцё; каторая-б яго зразумела, выявіла-б зацікаўленьне для ўсіх ягоных справаў, падымала-б

на духу і пацяшала ў цяжкай працы і ў жыцьцёвых турботах; якая-б зрабіла для яго мілым і прынадным сямейнае вотнішча. Тады яму праца будзе шмат лягчэйшай, калі будзе ведаць, што працуе для каханай асобы, пры боку каторае пасьля дзённых турботаў знойдзе дабрадзейны супачынак.

Што да разродчага, або сямейнага гону, дык у жанчыны ён мацнейшы, чым у мужчыны і гэта ёй патрэбна з глядзішча на яе мацярынскае прызначэньне. Запраўдная жанчына толькі тады чуецца задаволенаю, калі знойдзе поўнае заспакаеньне сваіх мацярынскіх жаданьняў у клапатлівым і самаахвярным служэньні для другіх. Ня будзе вялікім пераборшчаньнем, калі сказаць, што з кожнага нэрву жанчыны чуецца крык за дзяцям. Але і ў натуры мужчыны глыбока сядзіць жаданьне патомства, у якім хоча прадоўжыць сваё існаваньне, якое сталася-б ягоным другім, лепшым «я».

Плоцьныя гоны — зложаныя з трох вышэйапісаных элемэнтаў у нармальнага дзіцяці яны быццам сьпяць. Хаця некаторыя мужчынскія, або жаночыя прыметы выяўляюцца ўжо ў раньняй моладасьці, аднак тады яшчэ немагчыма гутарыць аб нейкіх запраўдных плоцьных інстынктах, хіба што яны былі-б выкліканыя хваравлівым спадкам, або вонкавымі дзейнікамі.

У нармальнага чалавека плоцьныя гоны будзяцца перш вельмі нявыразна і быццам праз туман і гэта адбываецца ў часе т. зв. дасьпяваньня, калі ў арганізьме пачынаюць дзейнічаць унутраныя сэкрэцыі плоцьных залозак. Гэта час, калі дзіця пачынае пераменьвацца ў дарослага дзяцюка ці дзяўчыну.

Першым вынікам распачатага працэсу дасьпяваньня ёсьць тое, што хлопцы і дзяўчаты, якія дагэтуль спакойна гулялі супольна, пачынаюць адчуваць у сабе нейкую сілу, што іх наўзаем адпіхае. Цяпер хлапец стаецца занадта скоры да таго, каб на слабейшую сяброўку глядзець бяз ніякага паважаньня, а нат' з пагардай. Ён пачынае займацца гэраічнымі ўчынкамі. Яго цягнуць гульні ў якіх можа паказаць сваю сілу і адвагу. Дзяўчына ня раз балюча адчувае дзікае і бесцэрэмоннае абходжаньне хлапца і яна так-жа са свайго боку паглядае з абурэньнем і нясмакам на яго «дужасьць».

Тыя супроцьлежныя адчужэньні маюць такжа сваю мэтазгоднасьць у мудрых плянах Тварца. Разьдзеленыя ад сябе хлапец і дзяўчына, павінны ўзрастаць і разьвівацца адасобнена і то так, каб адно другога ня выбіла з каляінаў, сваім спосабам думаньня, не зьвяло з дарогі. Гэткім парадкам хлапец можа разьвіцца на поўнавартаснага мужчыну, а дзяўчына на дасканалую жанчыну. Толькі поўнавартасны мужчына і дасканалая жанчына могуць у сужэнстве стацца для сябе тым, чаго кожнае з іх шукае і жадае. Дзеля таго разьдзельнае выхаваньне моладзі вымагаецца найбольш істотнай патрэбай маладых людзей, калі толькі ня хочацца адняць ад іх тую прымету, з якое павінны будуць чэрпаць у будучыні сілы для выкананьня чакаючых іх розных заданьняў.

У маральна здаровых хлапцоў у гэтым часе завязваюцца вузлы прыязьні. Хлапчук ня ўмее яшчэ датарнавацца да рэчаіснасьці; той сьвет думак, якім жывуць дарослыя, для яго яшчэ ня зусім зразумелы. Дзяля таго ў іх прысутнасьці ён чуецца ніякава, і шукае лучнасьці з равесьнікамі, каторыя яго добра разумеюць, бо знаходзяцца на тым самым ўзроўні разьвіцьця. У іх асяродзьдзі ён чуецца найлепш, толькі ў іх сяброўстве найлепш весяліцца. Неўзабаве між равесьнікамі паўстаюць цясьнейшыя кругі сяброў, якія сябе найлепш разумеюць. Для поўнага разьвіцьця юнака бывае запраўдным шчасьцем калі знойдзе добрага прыяцеля- сябру, у каторым быццам у люстры можа бачыць адбіцьцё самога сябе; перад каторым можа шчыра выказацца; у каторым знаходзіць падпору і дапаўненьне.

Падобнае сяброўства перадусім павінна апірацца на ўзаемным паважаньні. Адзін у другім павінны бачыць добрыя духовыя прыметы, знаходзіць шляхотную ініцыятыву і падтрымку ў добрым. Добры хлапец дзеля гэтага ніколі сам праз сябе не пераходзіць ад гэткага сяброўства да выкрыўленае прыязьні, што спатыкаецца ў маральна падпсованых маладых адзінак. Яго патрэба мець сябру, ня мае нічога супольнага з сэксуальнымі гонамі. Ён засаромяўся-б перад сябрам, калі-б у ім штосьці падобнае абудзілася нават бязвольна. Пагодна і сьмела яны глядзяць сабе ў вочы і ў душы, вольныя ад брудных думак, якія спалохаліся-б дзённага сьвятла. Дзеля таго юнак адчувае прыродны нясмак, калі яму нехта нахабна накідаецца са сваім сяброўствам, стараючыся прывабіць яго сабе ветлівасьцю, ці падаркамі. Гэта супраць яго натуры; гэта яго коле і наводзіць падазрэньне чагосьці нядобрага; яго здаровы інстынкт вычувае небясьпеку і каже абмінаць яе чым далей.

З гадамі дзейнасьць унутранае сэкрэцыі на мазгі і ўяву стаецца штораз то выразьнейшай. Падобна, як гвалтоўныя буравеі ў красавіку абвяшчаюць надыход вясны, так разбуджаныя плоцьныя гоны азначаюць паважныя зьмены ў юнаку. У гэтым маладым чалавеку, у каторым ўсё разьвіваецца, адбываецца быццам бязупынная фэрмэнтацыя; настрой зьмяняецца бадай штохвіліны; ім пачынае валодаць нейкая няясная, неабмежаваная туга, з якое сам ня ўмее зрабіць высноўку. Сам сабе стаецца загадкавым.

Паколькі гэтае разьвіцьцё юнака адбываецца нармальна, — што бывае тады, калі ён мае заўсёды паважнае заняцьцё, якое займае ўсе ягоныя сілы — ягоны ўнутраны стан паволі выясь-

цяецца і на мейсца нявыразнай тугі і мрояў адзываюцца штораз сільней плоцьныя гоны, зразумела ня ў кожнага з аднолькавай сілай. Тыя што цалкам адданыя практычным заняткам, вельмі мала зьвяртаюць увагі на ўнутраныя перажываньні. Іншыя адчуваюць нешта падобнае да ўнутранага незадаваленьня, але глыбей у яго прычыны ня ўнікаюць. Розныя абставіны могуць тыя гоны ў іх разбудзіць, ды ўсьцяж нанава распальваць, пакуль яны ўпоўні не завалодаюць маладым сэрцам.

Усялякага роду выпадковыя нават здарэньні могуць выклікаць у маладым сэрцы прыхільнасьць да пэўнае асобы іншага полу. Калі гэтая прыхільнасьць спаткаецца з узаемнасьцю, тады абох ахоплівае бязьмежная радасьць і здаваленьне. Колькі гэта песьняў высьпевалі паэты ўсіх часоў і ўсіх народаў, каб апісаць шчасьце першае любові! Сьведамасьць, што каханую асобу можна ўважаць за сваю непадзельную ўласнасьць, што ёсьць каханым і ўзаемна можа кахаць — сэрца абох залівае радасьцю. Яны ўважаюць сябе за найшчасьлівейшых людзей на зямлі і маюць тое пераканаsuccь, што апрача гэтага каханьня нічога больш да шчасьця не патрабуюць. Найвялікшую ахвяру, якую трэба было-б зрабіць для гэтага каханьня, лічаць нічым у параўнаньні з тым, што атрымоўваюць праз яго.

У гэткім стане чыстая любоў і плоцьнае каханьне непадзельна мяшаюцца ў сэрцы закаханых. Любоў згодна са сваей сутнасьцю імкнецца да злучэньня. Кахаючыя жадаюць быць блізка сябе. Калі іх доля дзеліць, дык прынамся думкамі яны непадзельна з сабою. Усялякая разлука выклікае боль і тугу за каханым, што для сэрца зьяўляецца вялікай мукай; тады яно нічым ня можа заняцца і нідзе не знаходзіць патолі. Са смагай чакаюць хвіліны, калі маглі-б зноў злучыцца. Каханьне цягне іх, каб пяшчотамі ўпэўнівалі адзін другога аб узаемнай прыхільнасьці і яна ня можа быць заспакоенаю датуль, пакуль не наступяць Богам прызначаныя суадносіны ў сужэнстве.

Але праўдзівай і апошняй мэтай, якую Божы правід хоча асягнуць цераз плоцьныя гоны, даныя натуры чалавека — ёсьць дзіця.

Гэта трэба зусім ясна і з націскам усьведаміць. Розьніца паміж мужчынай і жанчынай; каханьне з усёй паэзіяй і красой; сужэнства са сваім шчасьцем і радасьцю — гэта ўсё дана не для задаваленьня ўласных пажаданьняў, не для асабістае прыемнасьці, ані нават дзеля дабра сужонкоў. Гэта ўсё пабочныя мэты, або лепш сказаць сродкі, якія вядуць да праўдзівае мэты, якою ёсьць ня што іншае, як дзіця. Бог усё так уладзіў, каб заіснавала дзіця. Таму дзеці ня ёсьць, як гэта некаторыя памылкова думаюць, нейкім больш менш прыемным дадаткам да шчасьця ў каханьні і сужэнстве, але галоўнай і апошняй мэтай сужэнства.

Вось-жа, калі малады чалавек пачуе прывязанасьць да дзяўчыны, і калі задаволены, што знайшоў такую, якая адказала ўзаемнасьцю, і што яе можа назваць «мая», і калі сэрца напаўняецца радасьцю і ён гатоў верыць, што да шчасьця яму больш нічога ня трэба, — хай тады добра ўсьведаміць, што ўсё гэта яму дадзена не для яго асабістага шчасьця, але каб пацягнены ўсім гэтым, імкнуўся да сужэнства і да годнасьці бацькі.

Пэўна-ж шматлікія ўступаючы ў сужэнства маюць на мэце толькі асабістыя карысьці, якія іх могуць чакаць. Адны жадаюць забясьпечыцца, іншыя разбагацець, мець помач у штодзеннай працы; адзінкам ніжэйшага палёту цялесныя роскашы выдаюцца найбольш пажаданай мэтай. Але, як «усе дарогі вядуць у Рым», — так паміма розных людзкіх меркаваньняў, якія робяцца пры ўступаньні ў сужэнства, намечанае Богам прадаўжэньне людзкога роду, між агулу людзей ёсьць запэўненае.

Ня трэба так-жа забывацца, што разьвіцьцё плоцьных гонаў ува ўсіх іх фазах, пачынаючы ад самага асноўнага, што маецца ў розьніцы характараў, у патрэбе ўзаемнага дапаўненьня і пацягу адзін да другога, аж да радаснага захопленьня закаханых і ціхага шчасьця сужонкаў — **усё гэта сам Бог сваею мудрасьцю даў людзкой натуры.** Дык у гэтым няма нейкага такога адкрыцьця, што існавала-б у чалавеку насупраць Божага пляну. На першых старонках Біблії чытаем: «Дзеля гэтага пакіне чалавек бацьку свайго і матку сваю, і прыстане да жонкі свае, і будуць двое ў адным целе» (Быць. 2, 24).

Алеадначасна роскаш зямное любові мае вышэйшае значэньне. Яна павінна даць да зразуменьня і быць вястуном беспараўнаньня вышэйшае і дасканалейшае любові, якая задаволіць чалавека ня толькі на хвіліну і часткова, але ўпоўні і заўсёды — гэта значыць любові Божай. У найвышэйшай паэме сьв. Пісаньня «Песьні песьняў» туга душы да Бога апісваецца ў форме любоўных суадносінаў закаханых. Жаданьне сэрца чалавека заглыбокае, каб яго трывала магла заспакоіць зямная любоў. Ды нават і тыя сьветлыя хвіліны дробнага шчасьця нават найбольш дабраных сужонкаў часта зацемніваюцца; то людзкія слабасьці іх скаламуцяць, то непрадбачаныя зьмены долі засмуцяць, то хваробы, то іншыя турботы і цярпеньні прыгнобяць, аж пакуль канчаткова сьмерць не пакрые іх чорнай жалобай. Таму дух павінен узьняцца вышэй, асягнуць насычэньне свайго любоўнага жаданьня ў іншым жыцьці — у Богу.

(Далей будзе).

Паводля кніжкі Шільгэна «Du und Sie»
апрацаваў **Васіль Друя**.

# Жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні-Прадславы Полацкае

На жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні ўжо хоць-бы таму варта зьвярнуць увагу, што ён мае ня менш цікавую гісторыю, як і самае жыцьцё сьвятое. Да таго ў беларускай гістарычнай літаратуры дзякуючы няяснай зацемцы В. Ласоўскага ў «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» аб гэтым жыцьцяпісе, можа паўстаць памылковае паняцьце, быццам недзе ёсьць жыцьцяпіс сьвятое з XII веку. Ён піша так: «Жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні кн. Полацкае напісаны мніхам Спаскага манастыра ў Полацку для ігумені таго-ж манастыра, што можна бачыць са слоў жыцьцяпісу: «Игумены монастыря сьвятога Спаса и Пречистыя Его Матере, иже во Полотсцѣ градѣ... (Рукапісны зборнік XVI ст. Троіцкае Лаўры)... Жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні мае ў сабе шмат цікавых гістарычных даных датычна Полацка і духоўнага тагачаснага жыцьця ў ім, што паказуе на чыста мяйсцовае паходжаньне аўтара. Жыцьцяпіс тэты быў напісаны не пазьней канца XII ст.».

Тымчасам рэч маецца крыху інакш. Запраўды мусіў быць жыцьцяпіс сьвятое Еўфрасіні з канца XII веку, але ён да нас не дайшоў, прынамся да цяпер яго не знайшлі, але дайшлі розныя яго перарobкі. Што да аўтарства таго першапачатнага жыцьцяпісу дагадка В. Лстоўскага так-жа ня зусім згодна з праўдаю, бо манастыр сьв. Спаса быў жаночым манастыром, ігуменьнямі ў ім былі манашкі, якія падлягалі беспасрэдна біскупу, але ў суседзтве быў мужчынскі манастыр Багародзіцы, дык праўдападобна, што аўтарам мог быць ігумен гэтага манастыра, які відаць мусіў добра ведаць брата сьв. Еўфрасіні, ад якога даведаўся аб паломніцтве і сьмерці сьвятое.

Справаю гэтага жыцьцяпісу займалася ўжо нямала гісторыкаў і пакуль няма новых даных, ані нават магчымасьці скантраляваць усе пазьнейшыя рукапісы, прыходзіцца карыстацца тымі найбольш праўдападобнымі высноўкамі, да якіх яны дайшлі.

Голубінскій у «Исторіи Русской Церкви» (стр. 771-772) адносна цікавячага нас пытаньня заяўляе: «З усёю праўдападобнасьцю жыцьцяпіс прэпадобнае Еўфрасіні Полацкае... трэба аднесьці да перадмангольскага пэрыяду... Літаратурная апрацоўка жыцьцяпісу, у тым выглядзе, як ён нам ведамы цяпер, належыць да пазьнейшага часу, але зьместам, сваімі фактычнымі данымі, гэта значыць сваімі весткамі, дае магчымасьць бачыць у ягоным аўтару беспасрэднага, або прынамся вельмі блізкага сучасьніка сьвятое. Аб літаратурнай вартасьці жыцьцяпісу, мы нічога ня можам сказаць дзеля ўспомненае прычыны (г. знач. таму, што цяперешняя літаратурная апрацоўка ёсьць пазьнейшая). Датычна зьместу, дык у гэтых адносінах жыцьцяпіс даволі поўны, апавядае аб жыцьці Еўфрасіні ў бесперарыўнай пасьлядоўнасьці і здаецца ня мае важнейшых пропускаў».

Да гэтага трэба заўважыць, што пазьнейшая апрацоўка была не адна. Ведамы гісторык Сапуноў нарахаваў іх тры, але колькасьць рукапісаў, у якіх гэтыя пераапрацоўкі знайходзяцца, сягае дваццаці. Галаўнейшыя з іх дакладна пералічае Барсуков ў сваім творы «Источники русской агіографіи». Ён-жа падае амаль дасьлоўна думку Ключэўскага да часу, калі магла стацца тая пераапрацоўка. «Жыцьцяпіс прэп. Еўфрсіні паводля свайго складу і літаратурнаму характару прыпамінае рэтарычныя жыцьцяпісы XV і XVI в., але жывасьцю і багацьцем біяграфічных рысаў, разам з рэшткамі стараветнае мовы змушаюць дагадвацца ў біяграфа нейкую больш старую крыніцу». Арх. Філарэт уважаў, што першапачатны жыцьцяпіс паўстаў каля 1200 г. асноўваючы свой здогад на тым, што ў уніяцкім манастыры а. Базыльянаў у Львове меў быць нейкі стары рукапіс з жыцьцяпісам сьв. Еўфрасіні з XIV в. Аднак ані сам арх. Філарэт, ані ягоныя аднадумнікі ня спраўджвалі дакладна гэнага рукапісу. Тымбольш гэта цяжка зрабіць цяпер.

Факт адсутнасьці першапачатнага жыцьцяпісу значна абцяжвае досьледы жыцьця сьв. Еўфрасіні, а другі факт ня менш сумны, што нават і тыя рукапісы з пераапрацаваным жыцьцяпісам усе ёсьць небеларускага (расейскага) паходжаньня. Гэта выглядае на паважную ненармальнасьць, бо самыя-ж расейскія гісторыкі сьцьвярджаюць, што: «Да мітрапаліта Макарыя (1542-1563) жыцьцяпіс Еўфрасіні ня сустракаецца ў рукапісах (на абшары Расеі) праўдападобна дзеля таго, што для Маскоўскае Русі ... Еўфрасіня была так-бы сказаць чужая. Мітрапаліт Макарый умясьціў жыцьцяпіс у сваіх Четьі-Мінэях (пад 23-V) і можна думаць, што падчас гэтага жыцьцяпіс атрымаў сваю цяперашнюю літаратурную апрацоўку» (Голубінскій — Исторіи Русск. Церкви т. I с. 772).

Чаму так сталася, найлепш выяўляе Е. В. Барсоў у «Описаніи великих Четьіх-Миней митр. Макарія...» (гл. Чтенія в Императорском Обществѣ, Исторіи ... Москва 1884). Адтуль даведваемся, што мітр. Макарій быў захоплены новасьпечанаю тэорыяю аб Маскве «трэцім Рыме». Ён бачыў, што «вонкавае аб'еднаньне дзяржавы ўжо сталася, але не ставала нутранага аб'еднаньня, без якога вонкавае вельмі нятрыўкае. Такім вялікім зьбіральнікам акруговых Цэркваў у адзіную Усерасейскую Царкву, такім маральным злучнікам мяйсцовых інтарэсаў у адзінстве царкоўнага духу і звычаю зьяўляецца ў XVI в. Макарій мітрапаліт Маскоўскі і ўсяе Русі». Адпаведна да гэ-

тае мэты была абрана сыстэма зьбіраньня жыцьцяпісаў нямаскоўскіх сьвятых. Сам мітр. Макарый, паводля сьведчаньня тако-ж Барсова «ня толькі загадваў сьпісваць жыцьцяпісы і другія кнігі, але так-жа стараўся ачышчаць мову ад іншамоўных выславаў— (Успомн. твор. стр. 1).

I запраўды праступываўшы жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні Полацкае ў апрацоўцы мітр. Макарыя, прыходзіцца прыйсьці да пераканаьня, што гэтая моўная апрацоўка раўназначна поўнаму перакладу на тагачасную расейскую царкоўна-славяншчыну. Ад першапачатнае мовы асталіся толькі жалюгодныя рэштки. Аднак самыя біяграфічныя факты, жывасьць апавяданьня, дух тагачаснае эпохі веюць такою праўдамоўнасцью, што ўсе гісторыкі згодна прымаюць гэты жыцьцяпіс за паважны гістарычны дакумант. Дасьледнік расейскае гагіяграфіі Г. Федотов зьвярнуў увагу, што спаміж «русскіх» сьвятых жанчын «адзіная сьв. Еўфрасіня Полацкае выступае, у сваім жыцьцяпісе з азначанымі рысамі характару, прэдстаўляючы яе, як нязвычайную па сіле характару і асьвечанасьці царкоўную дзеячку». I гэта запраўды так ёсьць.

Нічога тады дзіўнага, што беларуская сьвятая з гэткімі рысамі характару трапіла ня толькі ў Четьі-Мінэі мітр. Макарыя, але і ў «Книгу Степенную царского родословія». Сам назоў Кнігі сведчыць аб яе прызначэньні. Ірона лёсу! Сьвятая князёўна грозных Палачан, якая ўсё жыцьцё ахвяравала для асьвечаньня і асьвячаньня бацькаўшчыны, мела стацца козырам у чужых захопніцкіх руках для духовага паняволеньня краю. Праўды стварыць нейкую сувязь між жыцьцяпісам сьв. Еўфрасіні і агульным зьместам «Книги Степенной царского родословія» ніяк не ўдалося. Гэты факт даўно заўважылі дасьледнікі гэнае «Кнігі» і стараліся якім колечы спосабам навязаць бракуючую сувязь. Пл. Васенко ў сваім апісаньні «Кнігі Степенной» так піша: «Сувязьзю ...між апавяданьнямі ў «Степенной».„ былі хронолёгічныя выпадкі, блізіня ў часе апавяданых у іх падзеяў. I запраўды, якія іншыя адносіны маглі мець напр. апавяданьні аб Еўфрасіні Полацкай, ці цярпеньні вял. кн. Рамана Ольговіча ў ардзе за веру Хрыстову, да жыцьця і дзейнасьці Юрыя Доўгарукага і Даніла Маскоўскага, ў гранях якіх сустракаюцца названыя апавяданьні?»

У сувязі з вышэйсказаным само напрошваецца пытаньне, як агулам так магло стацца, што беларусы дазволілі расейцам спэкуляваць іменем свае сьвятое? Каб на гэта адказаць, трэба ведаць, што XVI в., калі расейцы пераапрацавалі жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні і пачалі ім карыстацца для сваіх вялікадзяржаўных мэтаў, быў агулам у іх характэрны рознымі перайманьнямі. Тады дзеяліся шмат горшыя рэчы. Вялікія Маскоўскія князі прысволі сабе візантыйскі гэрб і царскі тытул, да якога дадавалі «Вялікае, Малое і Белае Русі Самодзержавец». Беларускія, ці як іх тады звалі літоўскія, Вялікія Князі пратэставалі супраць такога прысвойваньня, але дарэмна.

Аднак даволі дзіўнае зьявішча, калі на Беларусі запанавала рэлігійная вунія, расейцы ўстрымаліся ад спэкуляцыі іменем сьв. Еўфрасіні. Тады толькі растоўскі яп. Дзімітры Туптало пераапрацаваў жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні і надрукаваў у сваіх Четьі-Мінэях. Але ён як украінец і вучань Магілянскае Акадэміі ў шмат чым розьніўся ад расейскага рэлігійнага напрамку і тэндэнцыяў.

Паколькі на Беларусі ў часе вуніі быў пашыраны жыцьцяпіс сьв. Еўфрасіні цяжка сказаць, бо тагачасная беларуская рэлігійная літаратура пераважна зьнішчана падчас паленьня кніг на Беларусі, якое асабліва жарстока праводзілася пасьля далучэньня Беларусі да Расеі, і потым пасьля скасаваньня вуніі. Праўдападобна толькі ў базыльянскім уніяцкім манастыры ў Львове быў захаваўся рукапіс у якім між іншым ёсьць бадай ні не найстарцы ведамы дагэтуль жыцьцяпіс сьвятое Еўфрасіні. Аб гэтым рукапісу знайходзіцца толькі кароткая зацемка Срезневского ў «Журналѣ Министерства Народн. Просв.» за люты 1863 г. с, 60, адкуль даведваемся, што ў тым манастыры ёсьць «Пергаментны рукапіс вял. 8, даволі старынны, бадай што з XIV в. зрэштаю вельмі папсаваны; няма ў ім ні пачатку ні канца і ў сярэдзіне вырвана шмат лістоў. Вось загалоўкі артыкулаў зьмешчаных у ім: «Житіе и хожѣніе стыіа Ѳеоуфросиня...» Далей ідуць жыцьцяпісы чатырох іншых сьвятых. Больш дакладных вестак аб гэтым рукапісе не ўдалося знайсьці.

Пасьля скасаваньня вуніі ў расейскай рэлігійнай літаратуры зьявіліся розныя брашуры і большыя артыкулы аб сьв. Еўфрасіні, якія ў асноўным паўтаралі або шыршы жыцьцяпіс з Четьі-Мінэяў мітр. Макарыя, або каротшы яп. Дзімітрыя Тупталы. Аднак найбольшая праца аб сьв. Еўфрасіні, якая зьявілася да гэтага часу паходзіць з каталіцкага асяродзьдзя. Гэта ёсьць ведамы твор у польскай мове: «Dwa wielkie swiatla na horyzoncie Polockim».

Агулам аб сьв. Еўфрасіні існуе даволі вялікая бібліяграфія. Калі парахаваць усе кнігі, брашуры, рукапісы ў якіх сустракаюцца весткі аб яе жыцьці і дзейнасьці, дык назьбіраецца каля 110 назоваў у мовах: беларускай, лацінскай, нямецкай, польскай, расейскай, украінскай і царкоўна-славянскай. У сучасны мамэнт некаторыя з гэтых твораў нават немагчыма адшукаць.

а. Л. Гарошка

---

**НІКОМУ НЕЛЬГА АСТАВАЦЦА БЯЗЬДЗЕЙНЫМ, КАЛІ РЭЛІГІЯ І БАЦЬКАЎШЧЫНА Ў НЕБЯСЬПЕЦЫ.**

**ПІЙ X.**

# У чыёй абароне?

Толькі надаўна і запраўды прыпадкам трапіў мне ў рукі часапіс «Праваслаўны Беларус» Нр. 4 за сьнежань 1948 г., дзе між іншым Лявон Гарблоўскі надрукаваў «Адказ а. Лазару» на артыкул «Масква — трэці Рым».

Дзіўны гэты «Адказ». Усё, што ў артыкуле «Масква — трэці Рым» сказана пад адрэсам Масквы Л. Гарблоўскі прымае пад адрэсам усяе Праваслаўнае Царквы, каб пасьля гэтага магчы выказаць сваё незадаволеньне на ўспомнены артыкул і яго аўтара. З гэтага выходзіць запраўдная недарэчнасьць і ў канчатковым выніку выходзіць, што «Адказ» Л. Гарблоўскага бароніць якраз тое, супраць чаго заклікае вясьці супольную барацьбу. Ён напрыклад пытаецца: «Ці-ж Вы ня бачыце, што ўжо і праваслаўнага і каталіка адна і тая-ж рука хапае за горла?» Дык-жа аб гэтай небясьпецы пішацца блізу на кожнай старонцы «Божым шляхам» і робіцца ўсё магчымае, каб ёй супрацьдзеяць, але Вы, Л. Гарблоўскі, што робіце? Вы-ж спамагаеце гэтую «руку». Для беларусаў гэтая «рука» падвойна катоўская, бо нясе і нацыянальнае і рэлігійнае паняволеньне самой Праваслаўнай Царкве.

Увесь мой артыкул «Масква — трэці Рым» ад пачатку да канца выступае супраць таго паняволеньня Праваслаўнае Царквы, якое мела мейсца ў царскай Расеі і ў якім яно знайходзіцца сёньня. Канцовая зацемка аб непахісным старым Рыме і Пятровым пасадзе зроблена толькі на тое, каб наглядна паказаць абсурдальнасьць тэорыі аб трэцім Рыме, пакольki стары Рым астаецца ў сваёй першапачатнай сіле і значэньні. Кожнае маё цьверджаньне абгрунтавана гістарычнымі фактамі супраць якіх ніхто ня можа зрабіць ніякіх засьцярогаў, ня робіць іх і Л. Гарблоўскі і таму тым дзіўнейшае яго выступленьне. Факты паданыя ў маім артыкуле сьведчаць аб паняволеньні Праваслаўнае Царквы ў Расеі і выкарыстоўваньні яе для захопніцкіх мэтаў пачынаючы ад цароў Васіля III і Івана VI і канчаючы на сучасных чырвоных валадарох Масквы, якія асабліва востра скіроўваюць апанаваную расейскую Царкву супраць беларусаў. Таму само сабою напрошваецца пытаньне: Хто такі Л. Гарблоўскі і каго ён ўласьціва бароніць? Ці ён бароніць слушнасьць паняволеньня Праваслаўнае Царквы расейскімі валадарамі, ці расейскі імпэрыялізм адносна Беларусі? І адно і другое яму гонару ня прыносіць.

Нават спамі-ж ерархаў Рас. Праваслаўнае Царквы не бракавала такіх, якія выступалі супраць таго маскоўскага паняволеньня. Успомніць хоць-бы сьв. Філіппа (1507-1568) мітрапаліта Маскоўскага, Арсенія Мацеевіча (1698-1772) мітрапаліта Растоўскага — гэта гэроі, якія не пашкадавалі жыцьця ў абароне Праваславія супраць царскага хіжацтва і за гэта Праваслаўная Царква залічыла м. Філіппа між сьвятых. Нажаль было замала гэткіх людзей, таму і зьявіліся закіды супраць ерархаў пайшоўшых па найменшай лініі апору, і гэтыя закіды можна было пачуць ня толькі з вуснаў бязбожніка Белінскага, але і з самых пабожных вуснаў, каб далёка не хадзіць за прыкладамі варта толькі пазнаёміцца з творамі салавецкага вызнаньніка а. М. Польскага, (аб якім я успамінаў у сваім артыкуле) і чытаць праваслаўную прэсу і паслухаць вернікаў.

Л. Гарблюўскі зьвяртаецца да мяне: «Вы радуецеся, што «трэці Рым» (Масква) танцуе пад дудку бязбожнікаў» — А я Вас спытаю: дзе хоць адным словам ці намёкам я выказаў гэткую радасьць? Ніадзін шчыры беларус, ці ён будзе каталік, ці праваслаўны ня радуецца з гэтых «танцаў», бо яны нам нічога іншага акрамя няшчасьця ня прыносяць. Увесь мой артыкул зьяўляецца пратэстам супраць таго паняволеньня і «танцаў пад дудку бязбожнікаў». На няшчасьце ў самай маскоўскай «Праваслаўнай» Царкве знайшліся людзі, якія патрапяць цешыцца з гэтага паняволеньня і пісаць у «Жрнале Маскоўскае Патрыярхіі» Нр. 11 — 1947: «Расейская Праваслаўная Царква разам з усімі працоўнымі радуецца і сьвяткуе 30-годні юбілей савецкае ўлады, каторы мы праводзім у абставінах міру і ўсё ўзрастаючага дабрабыту» стар. 31 (Увага рэдакцыі: Цытаты падаём у перакладзе). Падобнымі выявамі радасьці перапоўнены старонкі Журналу Маскоўскае Патрыярхіі.

На іншым мейсцы, усяго некалькі радкоў ніжэй, Л. Гарблоўскі піша: «Вы кажаце, што Праваслаўная Царква танцуе пад дудку бязбожнікаў і садзейнічае вынішчэньню хрысьціянства. Эх Вы, а. Лазар! Больш нічога не астаецца Вам сказаць. Там кроў ліецца, там стогны, пакуты нечалавецкія мучанікаў веры, там уся Царква абмываецца ў сьлязах і крыві». Варта толькі папярэдне наведзены сказ з «Адказу» Гарблоўскага параўняць з гэтым ягоным сказам, каб пабачыць, як ён лёгка перакручвае чужыя думкі. Я пісаў: « «Трэці Рым» танцуе пад дудку бязбожнікаў», а тут ён кажа «Праваслаўная Царква танцуе...» — па-першае што гэта агулам дзьве розныя рэчы і ўжо таму так іх атоесамліваць нельга, а па-другое Праваслаўная Царква гэта ня толькі тая, што ў Маскве; ёсьць-жа шмат Праваслаўных Цэркоў зусім незалежных ад Масквы, ёсьць і расейскія Цэркві па-за абшарам Савецкага Саюзу, якія зусім ня зьвязаны з Масквою, але відаць, што Л. Габлоўскі толькі маскоўскую Царкву ўважае за Праваслаўную, бо піша, што «там уся Царква абмываецца ў сьлязах».

Аб тым што запраўдная Расейская Праваслаў-

ная Царква, а тымболыш Беларуская Царква цярпіць і абмываецца крывёю ды сьлязамі, на абшары Савецкага Саюзу,ніхто на старонках «Божым шляхам» ніколі не пярэчыў і пярэчыць ня думае, але на сорам для таго-ж «Трэцяга Рыму» у самай Маскве падняліся галасы з лона самое-ж Рас. Царквы, якія запярэчылі гэтыя цярпеньні. Ніхто іншы як мітрапаліт Сяргей, пазьнейшы патрыярх у 1930 г. зазявіў: «учыненыя савецкаю уладаю рэпрэсіі супраць вернікаў і сьвятароў ня маюць ніякіх адносін да іхняга рэлігійнага перакананьня. Гэтыя рэпрэсіі выкліканы выключна антыдзяржаўным дзеяньнем». Далей ён-жа дадае «у Савецкім Саюзе ніколі ня было і ў сучасны мамэнт няма ніякага рэлігійнага прасьледу». (Васкрэснае Чтеніе 23-ІІІ-1930). Амаль даслоўна тое самае паўтарыў у 1945 г. мітр. Мікалай Крутіцкій у Парыжу і тое-ж шмат разаоў паўтараецца на старонках Журналу Маскоўскае Патрыярхіі. У сваім ведамым пасланьні з дня 29-IV-1927 г. м. Сяргей пісаў: «Мы, царкоўныя дзеячы, ня з ворагамі нашае савецкае дзяржавы і не з бязмозгімі прыладамі іх інтрыгаў, а з нашым народам і урадам». Супраць гэтае «Царквы», якая пайшля на услугі нават бязбожнікам, каб толькі пашыраць межы свайго валоданьня і горда заяўляць, што яна — гэта «Трэці Рым» і падымаюцца галасы пратэсту адусюль. Нас беларусаў гэта патолькі цікавіць, што наша бацькаўшчына ад гэтых стараньняў Масквы заўсёды была першаю ахвяраю. Але цяпер і самі расейцы і то якраз тыя, што шмат перацярпелі за веру, зьвяртаюцца з вострым асуджэньем супраць тае маскоўскае «Праваслаўнае Царквы». У «Праваслаўнай Русі» Нр. 9 за 1947 г. калішні падсавецкі грамадзянін выказвае пераканаьне, што камунізм будзе пераможаны не атамоваю бомбаю, але крыжам і таму даходзіць да гэткага выснаўку: «Вось чаму наш вораг не камунізм, а духавенства, якое пайшло к яму на службу, бо яно запраўды творыць КАІНАВА дзела» с. 13. Гэты самы сказ па старонках таго-ж часапісу у 1948 г. Нр. 18 (422) паўтарыў праф. І. Андрэеў — калішні салавецкі вызнаньнік, дадаючы яшчэ: «Праваслаўе, якое паддалося саветам і сталася прыладаю сусьветнага антыхрысьціянскага згоршаньня — ня ёсьць праваслаўем, а спакушальнаю антыхрысьціянскаю ерасьсю, якая апранулася у разьдзёртыя рызы Праваслаўя» (с. 3.). Падобных высказаў можна цытаваць бесканца, але і гэтых даволі, каб пабачыць, як недарэчна робіць беларус Л. Габлоўскі, не разьбіраючыся ў царкоўных адносінах і бароначы тым самым разам з прасьледаванаю Царквою і тую якая яе мучыць, а якую асуджаюць самыя-ж праваслаўныя расейцы і мучанікі за Праваслаўе.

На іншым мейсцы Л. Гарблоўскі зноў зьвяртаецца да мяне: «Не радуйцеся, што Праваслаўная Царква сьцякае крывёю, што яе жывое цела разьдзірае бязбожны драпежнік на гатгофскім Крыжы! А што як і вашу Царкву пасьцігне такі учынак? А што як і Яе пачне тыраніць бязбожнік?» — Так даслоўна і напісана! Запраўды трэба быць чалавекам крайне злое волі, каб так упарта цьвярдзіць аб нейкай радасьці там, дзе аб ёй і намёку няма, а з другога боку ня бачыць таго няшчасьця, якое ўжо спаткала Каталіцкую Царкву. Што-ж горшае Яе яшчэ можа спаткаць на падсавецкім абшары, як спаткала дагэтуль? Няўжо аўтар ня ведае, што на абшары Беларусі, Украіны, Расеі не асталося ніаднаго каталіцкага біскупа? Няўжо ня ведае колькі тысяч сьвятароў каталікоў замучылі бальшавікі? А колькі загінула каталіцкага духавенства ў Летуве і Латвіі, а апошнімі часамі ў Югаславіі, Румыніі, Мадзяршчыне? Аб усіх гэтых злочынах маўчаць толькі самыя бальшавікі і ў іншых стараюцца сьцерці гэтыя факты з парадку дня. Дык і Гарблоўскі з імі заадно Што-ж варта пасьля гэтага ягоныя выступленьні супраць «бязбожнае улады»?

Наступна ён пытаецца: «Ці не на ісьцінную веру ўпярод усяго нападае вораг людзкога роду дзіявал?» Так! І прыпомніце, што Каталіцкая Царква ў Савецкім Саюзе, ў падсавецкіх краінах, падобна як падчас першых камуністычных рэвалюцыяў — прыймае на сябе гэты першы напад. Мы можам толькі цешыцца з таго факту, што ў гэтых муках за веру запраўдныя праваслаўныя мучанікі ня былі падобныя да Л. Гарблоўскага, не адставалі ад каталіцкіх, але супольна дзялілі гора і бяду на Салоўках, у падзямельлях НКВД і сотнях розных канцэнтрацыйных лягэрах. Таму і сёньня ня слабасьць Праваслаўнае Царквы, але здаровы і моцны супраціў бязбожнікам выклікае радасьць у каталіцкім сьвеце. Найлепшым доказам гэтага факту можа быць хоць-бы ўспрыняцьце весткі езуіта а. Шэккаля аб тайным хрысьціянскім руху ў Савецкім Саюзе.

Агулам трэба зазначыць, што ня толькі ў «Божым шляхам», але ў шмат якіх часапісах амаль адначасна зьявіліся артыкулы аб «Трэцім Рыме» у зьвязку з рэзалюцыяю Маскоўскага «Сабору» з нагоды 500 годзьдзя Расейскае Аўтакефальнае Царквы, дзе між іншым пад бальшавіцкую дыктоўку горда заклікалася: «Хай стары Рым упакаецца...». Тымсамым выступаць з абаронаю гэтага савецкага новага «Трэцяга Рыму», значыць станавіцца ягоным агентам. Ня ведаю ці Л. Гарблоўскі здаваў сабе аб гэтым справу?

З вышэйсказанага можна бачыць, як рэдакцыя «Праваслаўнага Беларуса» не арыентуецца ў тых справах, якімі займаецца і ў якіх арыентавацца мусіць, калі мае намер чэсна выконваць самахоць прыняты на сябе абавязак. Але на жаль з уступу да Нр. 4 гэтага часапісу даведваемся яшчэ аб горшых рэчах, там даслоўна пішацца «матар'ял ў Нр. 3 часапісу «Праваслауны Беларус» быў вы-

друканавы без усякага ведама рэдакцыі». (Правапіс захаваны, як ёсьць ў арыгінале). Пры такіх нядбалых адносінах да справы нічога дзіўнага, што і ў «Адказе» на мой артыкул знайшлося аж зашмат такіх зваротаў, што запраўдная рэдацыя праваслаўнага часапісу пры больш сумленных адносінах да свайго абавязку ніколі не паважылася-б апублікаваць. Над гэтым рэдакцыя «Праваслаўнага Беларуса» павінна паважна падумаць.

**а. Лазар**

---

# Смерць Хрыста з лекарскага гледзішча

Каталіцкі часапіс «Унівэрсэр» нядаўна апублікаваў ціканы артыкул канадыйсакга лекара др. Джэмса Камэрона датычна сьмерці Ісуса Хрыста на Крыжы з гледзішча сучаснае мэдыцыны, у якім др. Камэрон з чыста фахова-лекарскага становішча разглядае пытаньні: якія цярпеньні перажываў Хрыстос на Крыжы? Як настала сьмерць? Ці апісанае эвангелістамі ўкрыжаваньне адказвае навучным даным?

Вось у кароткіх словах вынікі, да якіх даходзіць гэты вучоны. Пасьля доўгіх і дакладных досьледаў усіх данных і сьведчаньняў адносна сьмерці Хрыста ў сьвятле сучаснае навукі др. Камэрон сьцьвярджае, што эвангелісты Іван і Марко апавядаюць аб муках Хрыста з найсьцісьлейшай мэдычнай дакладнасьцю.

Перд сьмерцю Хрыстос мусіў мець страшэнную смагу, якая агулам магчымая. Гэта было таму, што каты прыбіваючы Хрыста да Крыжа, мелі на мэце прадоўжыць Ягоныя мукі значна больш, чым на тыя тры гадзіны, якія Хрыстос прабыў на Крыжы. Відаць з усяго, што іхным жаданьнем было, каб кананьне зрабіць магчыма найдаўжэйшым і найбольш балючым. Калі-б яны хацелі прысьпяшыць сьмерць, яны-б дзеля гэтага мусілі расьцятнуць больш Ягоныя рукі.

Трэба думаць, што рукі Хрыста прыбілі да Крыжа не ў далонях, але ў запясьцях. Слова «рукі», якія мелі быць прабітыя, у сьв. Эвангельлях ужываецца ў агульным значэньні, не азначаючы таго мейсца, дзе яны былі прабітыя. Далоні не вмаглі-б вытрымаць цяжару цела. Пэўна што гвазды, якімі прымацоўвалі да Крыжа, мусілі мець адпаведныя плешкі, каб не сарвалася прыбітае цела.

Падчас доўгіх хвілінаў Хрыстос мусіў адчуваць неімаверную боль, выкліканую вялікім ціскам крывяносных судзінаў у цягліцах і суставах рук прыкованых да Крыжа. Але паволі галоўнае напяцьце перайходзіла ў вялікія грудныя цяглiцы. Дзеля гэтага мусіў спавольніцца абег крыві ў напятай дыяфрагме. Ад напяцьця згінацца, як сьлед яна больш не магла. Кроў пачала зьбірцца і ўтварала завал у грудзёх.

Бальшыня ўкрыжаваных блююць. Аднак сьв. Эвангельлі аб гэтым зусім не ўспамінаюць. І гэта якраз характэрна для Хрыста, бо Ягоная напятая дыяфрагма перашкаджала бляваць.

Сьмерць укрыжаваных выклікаецца шокам. Сьмерць Хрыста так-жа была выклікана шокам, які стаўся ў выніку расьцягненьня страўніка. Хворыя на вострае расьцяганьне страўніка ўсе ўміраюць аднолькава. Яны адчуваюць страшэнную смагу не да заспакоеньня. Якраз аб гэтым і апавядае эвангеліст Іван, што Хрыстос казаў: «каб споўнілася Пісаньне... «Хачу піць!.,» Дыханьне стае штораз цяжэйшым, але сьведамасьць увесь час астаецца яснаю аж да канца. Хворы знае, што ён умірае, але ён можа гутарыць з прысутнымі, разьвітвацца з імі. Потым у яго з вуснаў вырываецца апошні крык, галава ападае, усё цела стаецца ахлялым і адначасна зьнікаюць усе знакі жыцьця.

Усё гэта мы бачым у Хрыста. «Усё збылося», сказаў Ён, галава апала і аддаў дух.

Пасьля сьмерці Хрыста адзін з рымскіх жаўнераў прабіў Яму бок кап'ём. Др. Камэрон уважае, што жаўнер мусіў быць з левага боку, а ня з правага, як гэта можна бачыць на шматлікіх абразох. З прабітага боку выцякла кроў зьмешаная з вадою; і гэта сьцiслая праўда, якую можа сьцьвердзіць кожны лекар у падобным выпадку.

Некаторыя англійскія часапісы заўважваюць, што цьверджаньне др. Камэрона аб прыбіцьці Хрыста да Крыжа не ў далонях, а ў запясьцях пацьвярджае сьв. плашчаніца, якая цяпер пераховываецца ў Торіне і якую толькі ў рэдкіх выпадках паказваюць вернікам. Гэтая сьвятая памятка была знойдзена ў Лірэй, дыяцэзыі Труае (Францыя) ў 1360 г., куды яна была перанесена падчас крыжовых паходаў. У Італіі яна знаходзіцца ад 1578 г. Сьв. плашчаніца гэта тое палотнішча, якім было акручана цела Хрыста ў грабе і цяпер яна мае зусім выразныя адпячаткі людзкога цела. Гэтыя адпячаткі паўсталі ў выніку хэмічнага дзеяньня алейкаў, якімі было намашчана цела Хрыста.

У 1931 г. сьв. плашчаніца была дакладна дасьледавана і сфатаграфана пралатам Бюрнэсам, душпастырам пры Оксфордскім унівэрсытэце. У сваёй справаздачы англійскі прэлат падчырквае, што сьляды цьвікоў на плашчаніцы выразна відаць у запясьцях.

Др. Камэрон закончвае свае высноўкі цьверджаньнем, што Хрыстос паводля свае людзкое прыроды ўмірал на Крыжы так, як кожны чалавек уміраў-бы ў гэткіх умовах.

З гэтага бачым, што, чым больш вядуцца дакладныя досьледы над мінулым, тым больш пэўна сьцьвярджаецца праўдамоўнасьць сьв. Пісьма.

**Анатоль Жменя**

# Хто магутнейшы?

На Зямлі запанаваў Мароз. Насталі халады і памерзьлі кветкі. Іхнія прыгожыя пялюсткі пачарнелі і пакурчыліся; лісьце пажоўкла і паападала. Дрэвы агалелі і зямля апусьцела.

— Такваля тае бяды, казаў Мароз, няма кветак, сам лепшыя параблю.

І пачаў ён маляваць кветкі на вокнах, каб паказаць людзям, які ён майстар і каб закрыць ад людзкога вока ўчарнеўшую зямлю.

Аднак людзі выходзілі з хатаў і з сумам углядаліся ў няпрыветныя ваколіцы.

— Чаго вы сумуеце па паганай зелені? Я прыгажэй убяру зямлю. І Мароз засыпаў зямлю сьнегам. Усё стала мярцьвецкі белым і бездаганна чыстым.

— Ну ці-ж так ня прыгажэй? пытаўся Мароз.

Цешыліся дзеці, забаўлялася моладзь, але старэйшыя маўчалі і сумавалі.

— Што, яшчэ гэтага замала? — лютаваў Мароз, і ён з вялікай злосьцю загадаў завеям абудзіць кветкі.

Доўга бушавалі віхравеі, злосна сьвісталі яны ў галінах дрэваў, заклікаючы іх выканаць загад магутнага Марозу, распусьціць свае пупішкі. Ламаліся кволыя галінкі, сьнег куламесіўся з пяском і хаваўся ў зацішнейшыя мейсцы, ўтвараючы там цэлыя агромністыя гурбы. Шмат дзе паказалася агалелая зямля, але кветкі не паказваліся. Нарэшце зьняможаны віхар улёгся і боязна казаў Марозу:

— Ня слухаюць мяне. Нічога ім не магу зрабіць, відаць яны сьпяць сьмяротным сном.

— Што? сьмяротным сном? Вось я ім дам галялёду.

Галялёд абляпіў і дрэвы і зямлю, паламаў яшчэ больш гальля, так што аж сам Мароз пратурыў яго за сабатаж.

Задумаўся Мароз.

— Ня слухаюць сілы, паслухаюць хітрасьці. Ён заклікаў іней і загадаў спаборнічаць з кветкамі, каб убраць усю зямлю ў некалькі разоў прыгажэй за вясеньнія кветкі. Іней выканаў сваё заданьне запраўды чудова. Аж рот разявіў Мароз ад захапленьня, калі глянуў на інеяву работу.

Во, гэта я хвалю! Казаў, сьмяючыся ў вус. Усё цьвіце, усё красуецца; нават сухастай закрасаваў. Пляваць цяпер на ханабэрыстыя кветкі.

Дзеці аж падскаквалі з радасьці, аглядаючы іней на дрэвах і кустох. Але старэйшыя і гэтым разам ня выказвалі свае радасьці, кажучы:

— З гэтых халодных кветак ніякіх пладоў ня будзе.

Як на тое выглянула сонца і ўся праца інея зьнікла.

— Шкодніцтва, гукаў Мароз, злоснае шкодніцтва! Вон яго адгэтуль, паганае сонца!

Пачалася такая завіруха, што аж неба сьцьмілася і сонца схавалася за цёмныя хмары. Але не на доўга яно там аставалася.

Людзі цяжка ўздыхалі і шчыра шапталі:

— Хуттэй-бы сонейка зазьзяла. Ціхія мольбы з дня на дзень магутнелі, аж дайшлі да Бога. І загадаў Бог сонцу агрэць зямлю. Сонца вышэй узьнялося на небе і паслала свае ціхія праменьні па ўсёй зямлі.

Размок Мароз і раскісьлі ўсе ягоныя зманлівыя творы.

Бяз гуку, бяз злосьці ціха і ласкава абягалі сонечныя праменьні па ўсёй зямлі. Яны агравалі сонныя пупішкі і любоўна шапталі ім:

— Прачнецеся, змучаныя, красуйце! Зморыныя доўгім сном і лютым марозам асьцярожна заварушыліся пупішкі.

— Хто кліча нас? пыталіся кволым голасам.

Замест адказу мацней прытуліліся да іх сонечныя касулі і цалавалі збалелыя пупішкі.

Ціха грэла сонейка, і ў гэтым цяпле прыгожыя пялюсткі разнаколерных кветак навыперадкі раскрывалі свае сукветы. Звонкім сьпевам віталі іх птушкі, з шчыраю радасьцю віталі іх дзеці, разьясьнела аблічча спрацавана люду і зямля нанова ажыла чароўнай вясною.

---

**Уладзімер Дудзіцкі**

## ПРЫДЗІ

Санэт

З блакітнай вышыні прыдзі, малю, хутчэй
на землі нашыя збаўленьня дух раскуты,
здымі з грудзей людзкіх скрыжованыя путы,
спакой вярні душы і бляск былы вачэй;

бо толькі ў цяжкім сьне — у цішыні начэй —
п'ём сінь нябёс Тваіх—ня хмель зямной атруты,—
і разгінаецца касьцяк сьпіны прыгнуты,
і песьні сочацца выразьней і званчэй...

Ды сон, плыўкі міраж, — нязьдзейсны плод вязьніцы:
мігне, бы стрэл пругкі агністай бліскавіцы,
і ў мур глухі спадзе каля зялезных крат.

Зьнікае ўпоруч з ім спадзеў цьмяны збаўленьня:
красу вясны жывой настойліва на спод
вядзе неўмольная, жывая сіла тленьня...

# Свая серка

Аднойчы малады недаверак, уважаючы сябе за вялікага мудраца і хочучы пасьмяяцца з старэйшага паважнага веруючага чалавека, падышоў да яго, заразумела ўсьміхаючыся, і спытаў:

— Скажыце мне, дзеду, ці Вы верыце ў пекла?

— Прызнацца, нябож, дык я так ніколі ня думаў, ці я веру ў пекла, але калі пытаеш, дык скажу табе, што веру.

— Калі верыце, дык скажэце мне, адкуль там бяруць серку? бо-ж ведама, што ў пекле серкаю паляць.

— Адкуль у пекле серка? аб гэтым, дык я сам раней думаў і даведаўся, а калі, нябож, такі цікавы, дык і табе скажу. Адна мая старая знаёмая мела пляменьніцу, якая любіла мудрагельства, не раўнуючы, як сам. І вось прыходзіць яна раз дамоў і кажа:

— Цётка, я ў пекла больш ня веру. Сёньня я чула гутарку аб гэтым аднаго разумнага чалавека і ён мне ясна даказаў, што пекла няма, бо адкуль-бы там набралі толькі серкі, каб бесьперастанку паліць?

На гэта цётка спакойна адказала:

— Там з серкаю няма ніякага клопату.

— Дык дзе-ж яны яе бяруць?

— Нідзе не бяруць?

— А як-жа дастаюць?

— Туды кожны грэшнік сам сваю серку з сабою прыносіць. Ці той разумны чалавек, які табе гаварыў аб пекле, не ўспамінаў аб гэтым?

— Не.

— Ды ён шмат чаго не сказаў табе. Бо ўсё зло, якое робіць чалавек, гэта серка. Мудрагельства — гэта серка; брахня — серка; чужая крыўда — серка; самалюбства — серка; распуста — серка... Хто дрэнна робіць — серку для сябе рыхтуе. І тую серку ўжо тут людзі чуюць, — яна іх душыць, паліць сумленьне, пазбаўляе здароўя. Калі-ж такі чалавек уміраe, дык ён усю сваю серку нясе з сабою і для сябе на той сьвет. Вось як яно. Пайдзі і таму мудрагелю ды іншым аб гэтым скажы.

Пляменьніца маўчала і аб нечым думала.

Маўчаў і недаверак.

---

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

**10-ыя ўгодкі каранацыі Сьвяцейшага Айца**

Сёлета 12-га сакавіка споўнілася 10 год як сучасны Сьвяцейшы Айцец Пій XII абняў кіраўніцтва Каталіцкаю Царквою. Гэты дзень дзясятых ўгодкаў свае каранацыі Сьвяцейшы Айцец азначыў асаблівым спосабам. На знак цяжкога становішча ў якім цяпер знайходзіцца Каталіцкая Царква, Ён загадаў усім сваім прадстаўніцтвам на ўсім сьвеце, паўстрымацца ад усякіх афіцыяльных прыняцьцяў.

**Рэлігійная няграматнасьць.**

Прэзыдэнт Торонтонскага Унівэрсытэту ў Канадзе др. Сміт заявіў у раздзе Тростаў, што цяперашнія студнты «рэлігійна няграматныя». Прычыну гэткага стану др. Сміт бачыць у сучаснай палітычнай філязофіі адзьдзяленьня Царквы ад дзяржавы, што ў канцовым выснаўку даводзіць да таго, што рэлігію пачынаюць уважаць за малавартасную рэч. Абыякавасьць школы да рэлігіі таксама вучыць студэнтаў тое-ж абыякавасьці. У выніку студэнты не разумеюць маральных вартасьцяў, маральных праўдаў, маральных законаў і ідэалаў. А бяз гэтага частка жыцьця чалавека стаецца зусім парожнаю.

**Мітрапаліт Дзяніс на волі.**

Нядаўна польскі камуністычны ўрад звольніў з турмы мітрапаліта Дзяніса, калішняга галаву Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Польшчы. Міт. Дзяніс заўсёды трымаўся лучнасьці з Царгародзкім Патрыярхам і за гэта па загаду Масквы быў трапіў у турму і прасядзеў там амаль 10 месяцаў. Цяпер ён прызнаў над сабою зьверхнасьць маскоўскага Патрыярха, чым выраўняў сваё непаразуменьне з расейскаю «Праваслаўнаю Царквою».

**Скасаваньне навукі рэлігіі ў Польшчы**

Катавіцкі біскуп Адамскі ў сваім пасланьні да вернікаў з лютага месяца г. г. падаў да ведама, што ад лютага г. г. польскі ўрад скасаваў навуку рэлігіі ў школах і паздымаў укрыжаваньні з школьных саляў. Біскуп Адамскі заклікае вернікаў мірным шляхам супрацьдзеяць гэтакім распараджэньням.

Гэтае пасланьне было сканфіскавана польскім урадам, а тых сьвятроў, якія яго чыталі вернікам, паарыштована.

**Суд над пастарамі**

У сталіцы Баўгарыі Сафіі нядаўна адбыўся суд над 15 пратэстанцкімі пастарамі за «шпіянаж, зраду, і нелегальныя грашовыя апэрацыі» — заўсёдныя абвінавачаньні супраць духавенства ў савецкіх краінах. Так-жа паводля савецкага спосабу ўсе падсудныя «прызналіся» да віны.

Чатырох падсудных засудзілі на дасьмертную вязьніцу і канфіскацыю маемасьці, іншых 9 на кары ад 5 да 6 год турмы, канфіскацыю маемасьці

і грашовыя кары. Толькі двох дзеля старога веку засудзілі толькі на 1 год турмы з завешаньнем кары.

Справу засуджаньня баўгарскіх пастараў адначасна з справаю мадзярскага кардынала Міндсэнті даручана дэлегацыі Кубы перадаць на разгляд бліжэйшага паседжаньня Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў.

### «Свабода сумленьня»

Нядаўна баўгарскі ўрад дэлегату Апостальскага Пасаду монс. Гальлёні адмовіў права, заняць ягонае дагэтуляшняе становішча ў Софіі, так матывуючы сваю адмову: «Прысыланьне ў Баўгарыю дэлегата ад Апостальскага Пасаду заўсёды мела тымчасовы характар і прыймалася толькі дзякуючы добразычлівасьці баўгарскага ўраду. Да таго гэтая дэлегацыя ніколі ня мела дыплёматычнага характару. Цяпер-жа, калі на моцы новае канстытуцыі ў Баўгарыі запэўненыя правы і свабоды ўсім веравызнаньням, урад народнае рэспублікі ўважае місыю апостальскага дэлегата за дэфінітыўна закончаную і прысутнасьць монс. Гальлёні за лішнюю». Камэнтары да гэтае амовы так-жа лішнія.

### Далейшыя засуджаньні ў Будапэшце

Пасьля засуджаньня прымаса мадзярскае Каталіцкае Царквы кардынала Язэпа Міндсэнті нядаўна адбыўся ў Будапэшце суд за супрацоўніцтва з кардыналам над групаю 13-ці мадзярскіх сьвятароў, якія займалі выдатныя становішчы ў мадзярскіх каталіцкіх арганізацыях. Усіх пазасуджвалі на высокія турэмныя і грашавыя кары. Пасьля гэтага паадзіночна пазасуджвалі цэлы рад сьвятароў, між якімі знаходзіцца а. Іван Фабіян — архівіст кардынала Міндсэнті, а так-жа а. Мікалай Бэрэстоцы дырэктар Каталіцкае Акцыі ў Будапэшце. Варта ўвагі, што а. Бэрэстоцага засудзілі за тое, што не даносіў на сваіх супрацоўнікаў.

### Просяць місыянароў

Японскі гарадок Міцу, налічваючы 9000 жыхароў, на паседжаньні мескае рады пастанавіў запрасіць да сябе каталіцкіх місіянароў. Між жыхарамі Міцу ня было ніаднаго каталіка, аднак усе радныя за выняткам аднаго камуніста аднагалосна прынялі гэтую пастанову і выслалі запросіны да найбліжэйшае місыйнае каталіцкае станіцы а. а. Непарочнага Сэрца Дзевы Марыі. Між іншым у запросінах да місіянароў старшыня гораду пісаў: «...Да гэтага часу мы маглі паўстрымаць у абсягу нашага дзеяньня плыні выкліканыя грамадзкаю вайною, але вось у суседнім горадзе падымае сваю агідную галаву камунізм, які шукае магчымасьці зьнішчыць наш край, нашы дамы і палі». Ратунак супраць гэтае небясьпекі бачаць у дзейнасьці каталіцкіх місіянароў і місіянарак.

---

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## ШВЭЦЫЯ

### Міжнародная арганізацыя

Дня 19-ІІ г. г. заснавана ў Штакгольме Саюз пад назовам: Цэнтральная і Усходне-Эўрапейская Вунія. Гэты Саюз абымае прадстаўнікоў наступных краінаў: Беларусі, Латвіі, Летувы, Мадзяршчыны, Польшчы, Славаччыны, Украіны, Чэхіі і Эстоніі. У найбліжэйшым часе Саюз падасьць да шырокага ведама свою палітычную плятформу і плян дзеяньня ды прыступіць да бліжэйшага супрацоўніцтва з усімі дэмакратычнымі коламі Швэцыі.

## ФРАНЦЫЯ

### Вечар Украінска-Беларускае прыязьні

Дня 19-ІІ г. г. у салі «Таварыства Вучоных» у Парыжу украінцы і беларусы супольна ладзілі вечарыну-канцэрт пад назовам «Вечар Украінска-Беларускае прыязьні». На праграму Вечару зложыліся зьмястоўныя прамовы прадстаўнікоў абодвых народаў і харавыя ды салёвыя выступленьні так украінцаў, як і беларусаў. Пасьля адбыліся скокі. Саля была перапоўнена так самымі гаспадарамі Вечару, як і шматлікімі госьцямі. На ўсіх прысутных вечар зрабіў прыемнае ўражэньне.

### З жыцьця САБЭ

Для наладжаньня пачаткавае арганізацыйнае працы парыскія сябры Управы Сусьветнага Аб'еднаньня Беларускае Эміграцыі блізу штотыдня робяць сходкі для вырашэньня бягучых спраў.

### Каардынацыйны Камітэт

Дня 27-ІІ ў салі Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжу адбылася першая сходка Каардынацыйнага Камітэту беларускіх арганізацыяў ў Францыі. У склад Камітэту ўвайшлі старшыні ўсіх існуючых да тэтага часу на абшары Францыі беларускіх арганізацыяў. Падобныя сходкі прадбачацца штомесяц.

## Справа фаховых заняткаў інтэлігэнцыі

Цэнтральная ўправа Сусьветнага Аб'еднаньня Беларускае Эміграцыі (САБЭ) нядаўна падала да ведама прыемную для беларускае эміграцыі вестку аб магчыма хуткім уладжаньні на фаховую працу нашае інтэлігэнцыі. Дзеля гэтага ўправа САБЭ просіць усе цэнтральныя беларускія арганізацыі ў паасобных краінах, чым хутчэй прыслаць даныя адносна кадраў ведамае ім беларускае інтэлігэнцыі ў форме анкетаў, падаючы аб кожным паасобку наступныя весткі: прозьвішча, імя, дата і мейсца нараджэньня, час прыбыцьця ў даную краіну, мейсца і дату закончаньня школы, фах і спэцыяльнасьць, фаховы стаж, веда моваў.

Гэткую анкету належыць выпаўніць у дзьвёх мовах (беларускай і францускай або ангельскай) у 6 экзэмплярах і пераслаць у Цэнтралю САБЭ. Навуковых працаўнікоў просіцца пералічыць усе свае навуковыя працы, як друкаваныя, так і падпыхтаваныя да друку.

## ПАЛОМНІЦТВА ў ЛЮРД

Міжнародная арганізацыя «PAX CHRISTI» сёлета ў днёх 18-25 ліпеня ладзіць паломніцтва ў Люрд. Для моладзі ў Люрдзе будуць налажаны асобныя палаткі лягэры ў форме вёсак разьдзельна для кожнае нацыянальнасьці. Прадбачыцца ўдзел да 30 нацыянальнасьцяў.

Парадак жыцьця ў лягэры будзе абымаць: малітву, даклады, выступленьні самадзейнасьці і сьпевы.

Мэтаю гэтага паломніцтва ёсьць паказаць і даказаць, што толькі Хрыстос можа даць праўдны мір народам. Беларусы ўжо зглаcілі свой удзел у гэтым паломніцтве.

З паасобных краінаў прадбачацца спэцыяльныя цягнікі. Бліжэйшыя інфармацыі ў справе гэтага паломніцтва беларусы ў паасобных краінах могуць атрымаць у беларускіх душпастыраў:

У Францыі: R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI.

У Англіі: Rev. dr. Sipovic Ceslau, Marian House, Holden Avenue, Woodside Park, LONDON N. 12.

У Нямеччыне: Hochw. Dechant Michael Moskalik, (20 b), GOSLAR-Harz, Sommerwohlenstr. 1. A.

Жадаючых прыняць удзел, просіцца не адкладаць свайго зглошаньня, каб ведаць якую колькасьць мейсцаў рэзэрваваць для беларусаў, бо ўжо да гэтага часу прадбачаны лік удзельнікаў да 20 тысяч блізка што запоўнены. Потым цяжка будзе атрымаць палёгкі.

## ПАДЗЯКА.

Усім арганізацыям і прыватным асобам, якія прыслалі рэдакцыі «Божым Шляхам» і асабіста а. рэдактару прывітаньні з нагоды 31-ых угодкаў абвешчаньне незалежнасьці Беларусі, на гэтым мейсцы складаем шчырую падзяку.

Жаданьні зьмешчаныя ў прывітаньнях зьяўляюцца і нашымі жаданьнямі і найшчырэйшымі жаданьнямі ўсяго Беларускага Народу. Будзем верыць, дзеяць і маліць Усемагутнага Бога, каб дапамог іх хутчэй ажыцьцявіць.

Рэдакцыя.

## ПОШУКІ.

Сына **Шэўчыка Аўгеня** нар. 1921 г. у в. Дубнікі акр. Глыбокае шукае бацька Шэўчык Ян. Весткі слаць на адрэс:

**Szewezyk Jan, Gôttingen, Lüttich - Kaserne, Allemagne-Germany. Brit. Zone.**

## ВЫДАВЕЦКІ ФОНД

Сёлета на выдавецкі фонд «Божым Шляхам» і на перадплату прыслалі: Вішанька А. 1000 фр., Галаўніцкі П. 350 фр., Гутырчык С. 300 фр., Захарэвіч Я. 1000 фр., Каштэлян Ул. 60 фр., Кузьміна Н. 300 фр., Лукша Ул. 700 фр., Міцкевіч В. 300 фр., Мецеліца М. 450 фр., Монід А. 300 фр., Пузоўскі 1000 фр., Раманоўскі Я. 500 фр., Раманчук А. 350 фр., Сурвіла Я. 1000 фр., Тарарако С. 1000 фр., Уліцкі В. 500 фр., Шымко М. 500 фр., Янкін Я. 400 фр., Янчэнка П. 350 фр., Ясюкевіч Я. 350 фр., Яцкевіч Г. 500 фр.

Усім ахвярадаўцам і перадплатнікам шчырае

**Рэдакцыя.**

## З Ь М Е С Т.




**Gérant : D. Kucopej.** **Directeur : Abbé L. Horosco.**

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières Paris.